# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА № 13-14

Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

4 ГОД ВЫДАНЬНЯ

## Горад з кубікаў

Словы Л. САВЕНАК

Музыка В. ЯФІМАВА



ЗА-СЬПЯ-ВА-ЕМ, АК-ЦЯ-БРАТ-КІ,



З ПЕСЬ-НЯЙ Ў ПРА-ЦЫ ВЕ-СЯ-ЛЕЙ. І ЗА ГЭ-ТЫ



ЧАС ЗБУ-ДУ-ЕМ ЦЭ-ЛЫ ГО-РАД НА СТА-ЛЕ.

Будуць вуліцы даўгія
І прыгожыя дамы,
А з паперы мы пралажым
Нават рэчкі і масты.

З палак рэйкі мы палажым
Па іх пусьцім паравоз.
А над горадам высока
Самалёт дзяцей панёс.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# ЖЫВАЯ МАШЫНА



НАРЫС Л. ЧАРНЯЎСКАЙ



**У гэтым годзе нам патрэбна выгадаваць мільёны сьвіней, каб зьнішчыць недахват у мясе і сале. Усе дзеці павінны дапамагаць старэйшым у гэтай вялікай рабоце. Але трэба ўмець правільна даглядаць і гадаваць сьвіней, каб мець з гэтай работы як мага больш карысьці.**

**У гэтым нарысе расказана, як гадуюць і даглядаюць сьвіней у буйнай савецкай гаспадарцы | Сьвінаводным Інстытуце.**

**Дзеці! Прачытайце ўважліва гэты нарыс, вучэцеся, як трэба гадаваць сьвіней.**

Найлепшая машына для ператварэньня корму ў прадукты харчаваньня—гэта сьвіньня.

Адна сьвіньня дасьць у год тону мяса, гэта значыць 1000 кілёграм.

Якім гэта чынам?

Сьвіньня можа даць за год дзесяць парасят. А кожны выкармлены подсьвінак будзе важыць 100 кілё.



*Сьвінарнікі ў Сьвінаводным Інстытуце.*

Карова, ня гледзячы на свой вялікі рост, ня дасьць столькі мяса за год. Карова можа даць у год толькі адно цялё. Самае большае гадаванае цялё будзе важыць 150 кілёграм.

З кожным годам на нашых фабрыках і заводах старыя машыны замяняюцца новымі, больш дасканалымі.

Трэба ўдасканаліць і жывую машыну, каб мець ад яе больш карысьці.

Пад Палтаваю знаходзіцца адзіны ў сьвеце Ўсесаюзны Сьвінаводны Інстытут, дзе падрабязна з усіх бакоў вывучаюцца ўсе галіны сьвінаводзтва.

У Беларусі, пад Менскам, у Малой Сьляпянцы знаходзіцца адно з аддзяленьняў Усесаюзнага Сьвінаводнага Інстытуту.

У 1928 годзе заснавалася тут Цэнтральная Дасьледчая Сьвінаводная станцыя. На ўзгорку, недалёка ад чыгункі, што ідзе на Маскву, былі закладзены першыя сьвінарнікі.

Разам з ростам нашай сацыялістычнай гаспадаркі



*Кухні для сьвіней (Саўгас „Блонь“).*

расла і сьвінаводная станцыя. У 1930 годзе ператварылася яна ўжо ў Сьвінаводны Інстытут, як частка Ўсесаюзнага.

Кожная машына патрабуе добрага догляду, тым больш машына жывая.

Сьвіньні патрэбна і добрая кватэра і добрае харчаваньне.

У Малой Сьляпянцы пабудавана 14 сьвінарнікаў пад сьвіныя „інтэрнаты“. У іх разьмяшчаецца вялікая сьвіная сям‘я, больш тысячы штук.

Сьвінарнікі пабудаваны з дрэва, з вокнамі на поўдзень.

У Сьвінаводным Інстытуце ёсьць такія сьвінарнікі: у адным канцы сьвінарніка пабудавана спэцыяльная сталоўка. Туды сьвіньні ходзяць карміцца. Кожная сьвіньня заходзіць у асобную загародку, каб пад‘есьці. Потым яны ідуць назад у агульную спальню—логва. Там для іх пасьцелена салома і на ёй сьвіньні адпачываюць. У маразы яны зарываюцца ў салому і не баяцца сьцюжы, ім там цёпла, як у мяккай пасьцелі.

Між сталоўкаю і спальняю ёсьць уборная.

Каля сьвінарнікаў зроблены вылазы, каб сьвіньні, калі захочуць, маглі выходзіць на двор карыстацца сьвежым паветрам.

За два тыдні да апаросу сьвіньню пераводзяць у спэцыяльны сьвінарнік—пад асобны догляд.

Як толькі сьвіньня апаросіцца, парасятак зараз-жа прымаюць з-пад яе. Кожнага ўзважваюць, запісваюць і кладуць усіх у асобную скрынку, якая стаіць пры станку. Парасяткі сьпяць там у кучцы. Ня трэба баяцца, што сьвіньня можа падушыць іх.

Калі парасяткі запішчаць, папросяць есьці, іх падсаджваюць пад матку. Пакормяцца малыя—іх зноў кладуць у скрынку.



*Ванна для сьвіней.*

Праз дзень-два парасятак пакідаюць пад маткаю.

Падрастуць парасяткі, тады іх з маткамі ганяюць улетку ў поле на асобныя выпасы.

І маткі і парасяты найлепш адчуваюць сябе на вольным паветры. Не бяда, калі вельмі пячэ сонца, або пойдзе дождж. Уздоўж выпасу зроблены паветкі і туды хаваюцца сьвіньні ад сьпякоты і дажджу.

Захочацца сьвіньням піць—стаяць самапаілкі. З іх умеюць піць нават парасяткі. Націснуць лычыкам на кружок з дзірачкамі—і пакажацца вада. Яшчэ націснуць—зноў набяжыць вада, пакуль яны не нап'юцца.

Для парасят у загончыках пастаўлены карытцы з ядою, а лаз зроблены так, што вялікія сьвіньні туды не пралезуць.

Для сьвіней на выпасе пастаўлены самакармушкі.

Парасят трымаюць пад маткаю да 2-х месяцаў, а потым іх ставяць на бэконны адкорм, або гадуюць на плямя.

Бэкон—гэта маладая маласольная консэрваваная сьвініна, вельмі каштоўная па сваёй спажыўнасьці.

Сьвінаводны Інстытут пад Менскам выкормлівае за год 1000 подсьвінакаў па 100 кілё кожны.

Каб адправіць іх на мясную фабрыку, патрэбен цэлы цягнік—33 вагоны.

Сьвіньні вельмі любяць валяцца і ляжаць у гразі, бо гразь халодзіць іхняе цела і зьнішчае паразытаў. На сьвіней-жа часта нападаюць вошы.

Каля сьвінарнікаў Сьвінаводнага Інстытуту няма такіх лужын, дзе маглі-б валяцца сьвіньні, затое там ёсьць басэйн, у якім сьвіньні прымаюць ванны.

Басэйн вялікі, цэмантаваны, квадратны. Уніз вядуць усходкі, каб лягчэй было заходзіць, а ня бултыхацца згары ў ваду. У басэйн напускаюць вады з вадаправоду.

У такой ваньне можа мыцца адразу ня менш дзесятка сьвіней, іх там шаруюць шчоткамі, а яны, падстаўляючы бакі, толькі рохкаюць ад прыемнасьці.

Каб накарміць такую вялікую сям'ю, патрэбна і вялікая кухня. Кухня пры Сьвінаводным Інстытуце збудавана недалёка ад сьвінарнікаў. На кухні працуюць машыны.

На службу жывой машыне сталі машыны, выпушчаныя нашымі заводамі і прывезеныя з-за межаў.

У 1929 годзе быў выпісан з Германіі запарнік „Акча", які варыць параю 1.200 кілё бульбы за 1—1½ гадзіны. Ён быў адзіным у Саюзе. А цяпер Менскі завод імя Варашылава ўжо выпусьціў такі самы запарнік.





*Сьвіньні на пашы.*

У 1931 годзе на кухні пастаўлены яшчэ два новых электрычных запарнікі, прывезеныя з Германії.

Чан для вады, што стаіць на кухні, умяшчае 15 тысяч літраў вады.

Пад кухняю ёсьць склеп, у якім можна зьмясьціць 165 тон бульбы і карняплодаў.

У склепе стаіць электрычная бульбамыйка, выпушчаная нашым Гомсельмашам. Адзін транспарцёр падае бульбу ў машыну. Машына яе мые, а другі транспарцёр ужо чыста вымытую бульбу падае наверх, у запарнікі.

Віцебскі завод „Чырвоны Мэталіст" даў карнярэзку. Карняплоды, як буракі і турнэпс, больш карысны для спажываньня ў сырым выглядзе. Карнярэзка рэжа іх на дробныя часткі.

Зерняплюшчылка, прывезеная з Англіі, плюшчыць зярняты на корм парасятам і подсьвінкам.

Кожная сьвіньня атрымлівае пэўную норму кармоў. Кожны станок мае свой нумар. І корм замешваецца таксама ў нумараваных вёдрах. Які нумар на станку, з та-



*Электрычны запарнік.*

кім-жа нумарам выліваецца і вядро ў карыта. Падача корму робіцца пры дапамозе падвеснай дарогі.

Менскі завод „Камунар“ даў вагончыкі і ўсё абсталяваньне для падвеснай дарогі. Кожны вагончык разьлічаны на 1/2 тоны—500 кілёграм. Ён бяжыць па аднэй рэйцы ў сьвінарнік, падае корм і парожным ідзе назад для новай нагрузкі.

Не адны машыны абслугоўваюць сьвіней. Даглядаюць сьвіней людзі. Рабочыя і работніцы. Працуюць сьвядома, аддана, па ударнаму. Вось працуе работніца. Ніводнага лішняга руху. Зачарэпнула адным вядром вады, другім, не праліла нічога, замяшала корм, паставіла вёдры, бярэцца за другія. А вёдры ўсе нумараваныя, ня можа зблытаць нумары. За добрую працу ёсьць многа прэміяваных ударніц і ўдарнікаў.

Рознай пароды гадуюцца сьвіньні ў Інстытуце. Ёсьць і англійскія, нямецкія, дацкія і тутэйшыя беларускія сьвіньні, ёсьць мяшанцы.

Пазьвешвалі доўгія, як у сланя, вушы сьвіньні дацкай пароды. І ў малых парасят вушы лапухамі лезуць на вочы. Сьвецяць ружовым целам сьвіньні англійскай пароды. Ня вельмі прыгожая з выгляду „Аладка“, але такой можна ганарыцца: за два гады яна парасілася пяць разоў і дала за гэты час 50 парасят.

Шмат досьледаў праводзіць Інстытут. Ён вывучае сьвіньню з усіх бакоў. Вывучае як і чым лепш карміць яе У сваёй рабоце Інстытут падтрымлівае самую цесную сувязь з камсамольскім актывам у калгасах і саўгасах.

На ўсю Беларусь вядомы сьвінаводныя саўгасы: „Івань“, „Банонь“ і „Блонь“. Да 85 буйных сьвінаводных саўгасаў ёсьць цяпер у Беларусі. Тысячы племянных матак вырошчваюць сьвіны маладняк.

БССР выканае і перавыканае свой пяцігадовы плян. Яна дасьць у 1933 годзе ня менш 1½ мільёна сьвіней.



# Грышка на Граніцы

А. АЛЕКСАНДРОВІЧ

Урывак з паэмы

Малюнкі КРАСОЎСКАГА

... Грышка разам з камандзірам
Гаварылі доўга, шчыра,
Што ў Заходняй Беларусі—
Беларускія жандары
З польскім разам гаспадараць.
Што ня так, як трэба пану—,
Значыць—ты арыштаваны.
Гаварыць там нашай мовай
Забаронена сурова.
Там і зьдзек і катаваньні
Над нявольнымі братамі,
Хто-ж устане супроць катаў—
Гіне ў турмах—казэматах...
Слухаў Грышка, слухаў моўчкі,
Бляскам дзіва зьялі вочкі.
А калі адзін застаўся—
Помста ў сэрцы завілася,
І рашыў ён гэтай ноччу
Блізкі шляхціца фальварак
Зруйнаваць агнём-пажарам.

. . . . . . . . . . . . .

Няпрыкметна вышаў з дому,
Узяў з сабою сноп саломы,
Узяў сярнічкі, і цішком

Бег спаліць шляхецкі дом.
Хто такі?
— На месцы стой!
— Гэта—я, таварыш, свой...
— Што ляціш так віраломна?
Гэта што? Нашто салома?
Грышка белы стаў, як сьнег...
— Што-ж маўчыш? Куды ты бег?
Як пачулі, што за справа—
Зноў вядуць яго ў заставу.
А ў заставе камэндант,
Войск чырвоных атаман,
Глянуў нават злосна крышку
На зьбянтэжанага Грышку.
— Мы-ж цябе тут прытулілі
І кармілі і вучылі,
Як-жа так?
— Зусім ня гэтак!
Я ня йшоў супроць Саветаў.
З паўвярсты па той бок аркі—
Есьць два панскія фальваркі,
Я й надумаў іх спаліць,
Каб лягчэй было там жыць.
Каб нязнацца з бізуном
Нашым змучаным братом.
Скінуць прэч, адразу, з карку
Усе маёнткі, усе фальваркі.
Паскідаць у жар вагранкі
Усіх паноў і іх паўпанкаў...

. . . . . . . . . . . . . .

Выйшаў ён з камэндатуры,
Галаву павесіў хмура.





Ходзіць злосны, чырванее...
— Я — ніяк не разумею:
Шляхту біць, здаецца, можна?..
Дзіўны й словы камандзіра:—
„Стой з палітыкаю міра“.
Што такое?..
Лёг на ложак,
Крыўдна стала, нават сорам.
А ляжаў ля Грышкі поруч
Гэтак сама камандзір
Пагранічнік Казімір.
Несьцярпеў, пачаў адразу
Трошкі ўзбурана расказваць:
— Я хацеў дабро зрабіць,
А пачнуць сьмяяцца, кпіць.
Думаў, будзе мне падзяка,
Што пайшоў супроць палякаў.—
Так, ад сэрца, Грышка шчыра
Прызнаваўся Казіміру.
— Бачыш, справа тут такая,—
Падрасьцеш, дык сам пазнаеш—
У палякаў ёсьць паны
І ў беларусаў ёсьць яны.
А найбольш, калі знаць хочаш —
Ёсьць і там і там рабочы.
А рабочыя з панамі
Век ня могуць быць братамі.
У Расіі ўжо даўно
Рускіх выгналі паноў.
Зараз Польшча ў завірусе,
І ў Заходняй Беларусі
Ўзьнялі ўласнымі рукамі
Бой з уласнымі панамі.
Думаў ты спаткаць падзяку,
Што пайшоў супроць палякаў?




Вось—я, паляк, але армеец
І—чым горшы за цябе я?
І скажы, браток, за што-ж
Мне ўсадзіць зьбіраўся нож?
Ну, падумай, дружа—браце,—
Я твой вораг, ці прыяцель?

. . . . . . . . . . . . . . .

Грышка змоўк. А гэтак жвава
Беглі думкі. Ен зьдзіўлёны:
— Што такое? У чым тут справа?
Біць палякаў—
забарона!
Узьняць падпалы—
забарона!
Што такое?
У чым тут справа?..



АД РЭДАКЦЫІ: Рэдакцыя просіць чытачоў сказаць сваю думку:

1. Ці правільна зрабіў-бы Грышка, каб яму ўдалося перайсьці граніцу і падпаліць маёнтак?

2. Пра якіх палякаў гаварыў пагранічнік Казімір, што адны зьяўляюцца нашымі братамі, а другія—ворагамі?

# ЯНКА хоча быць вялікім

Апавяданьне Е. ЧАРНЫШОВАЙ
Малюнкі В. РАСТОЎЦАВА

Янку 3 гады, але ён жвавы, шустры хлапчук.

Увесь дзень толькі і чутна:

— Янка не чапай. Янка не бяры. Янка палажы.

А Янку ўсё хочацца ведаць і самому паспрабаваць зрабіць.

Вось сястры Зосьцы—дык усё можна яна вялікая.

Янка ўзяў сякеру ў рукі, хацеў пакарацiць у крэсьле ножкі, каб яно ніжэй было. Раптам мама крычыць:

— Ня руш!

Зоська сядзіць і нешта піша. Вось яна ўстала і пайшла ў кухню паглядзець, ці

кіпіць імбрычак на прымусе. Убачыўшы, што Зоська пашла, Янка спрытна ўзьлез на яе крэсла, узяў ручку, памачыў пяро ў чарніла і стаў пісаць. Але ў гэты час выходзіць Зоська.

— Што ты зрабіў? Зглуміў мне сшытак: панастаўляў розных кружочкаў ды яшчэ чарнілам заліў.

Паскардзілася Зоська бацьку, а ён Янку пакараў, а за што? Янка хацеў дапамагчы Зоськы, праўда, толькі няўмысьля чарніль-





ніцу перакінуў і запэцкаў сшытак, але гэта невялікая бяда, затое напісаў колькі. Янка плача і гаворыць:

— Я хачу пісаць.

Бацька адказвае яму:

— Ты яшчэ маленькі.

І так заўсёды. Тата на завод ідзе і Янка хоча.

— Ты куды?—пытае тата.

— На завод працаваць,—адказвае Янка.

Тата сьмяецца:

— Сядзі дома, ты яшчэ маленькі!

Задумаўся Янка: „Як добра быць вялікім: усё ім можна, каб мне скарэй вырасьці!“

Адзін раз у хаце нікога ня было, акрамя Зоські. Яна палівала кветкі.

— Зоська, нашто ты іх палівает?

— Каб яны скарэй расьлі.

Янка на хвіліну задумаўся, а потым скоранька пабег у кухню, паставіў табурэтку, улез у мыцельнік, адкруціў кран і сядзіць, пакручваецца ва ўсе бакі.

Скора ён увесь змок і пачаў дрыжаць ад холаду, а з мыцельніка ня вылазіць. Пачаў Янка крычаць на ўсю хату. Тут Зоська ўбегла, мама з базару прышла.



— Ну і Янка! разводзіць рукамі мама. Заўтра пашлю цябе хіба ў дзіцячы сад. Расьці там вялікім.



# НА РЭЧЦЫ

Верш дзяткора М. КАЛАЧЫНСКАГА

Скача сонейка па целе—
Дзеці ў рэчку захацелі.
Хто ня хоча аставацца—
Пабяжым хутчэй купацца!

На хаду скідай трусы!
Ты, Мікола, ня трусі,
У ваду кідайся ўвесь,
Дзе глыбока—дык ня лезь.

Паплывем хутчэй за лодкі,
Нібы рыбы-верхаводкі.
Вунь Рыгор пайшоў
нырцом,—
Эх, як добра тут хлапцом!

Чым-жа кепска ў вадзе
Нашай юнай грамадзе?
А як скончым мы з
вадою—
Загараць бяжым гурбою.

Хай пячэ нам сонца цела,
Каб здароўе у нас
мацнела.

Калгас імя Будзёнага.



*Дзіцячы сад у саўгасе Івань (Слуцкі р.)*



*Дзіцячы сад у калгасе „Абуджаная праца“*

# піанэрскія лагеры



Дом, у якім знаходзяцца лагеры Аўтадору.



На адчыненьні лагераў Аўтадору (каля Астрашыцкага Гарадка)



*Чытаюць сьвежы нумар газэты „Піонэр Беларусі“.*



*Ранішняя фізкультурная зарадка лагернікаў.*

# Шэры і бялячка

Апавяданьне А. Д Ы Л'А.

Маня сёньня першы дзень пасьля хваробы прышла ў дзіцячы сад. Тры тыдні прахварэла Маня і толькі сёньня доктар дазволіў ёй выйсьці з дому.

У садзе Маня ў камісіі па догляду жывога кутка. У час хваробы яна ўсё турбавалася:—мамачка, ці жывуць рыбкі? Хто корміць вавёрку? Ці не ўцяклі нашы жабкі? Ці паліваюць хаця дзеці кветкі?

Прышоўшы ў сад, Маня зараз-жа пабегла ў жывы куточак.

— Што за дзіва?—Вавёрчынай клеткі няма, а на яе месцы стаіць нейкая новая вялікая клетка, пафарбаваная ў зялёны колер, у сярэдзіне клеткі, нібы маленькі домік і ў тым доміку нешта варушыцца.

— Дзе вавёрачка? Загінула? — спалоханым голасам запыталася Маня.

— Вавёрку вынесьлі адгэтуль.

— А вось ты здагадайся, што за новыя жыхары ў нашым куточку?—сьмяючыся, пыталі дзеці.

— Ведаю, ведаю! Белыя мышкі!

— Не, ня мышы.

— Ну, дык вожык.

— І ня вожык, навошта яму гэткая вялікая клетка.

— Мы загадаем табе загадку, а ты адгадай.

Ён спакойны і трусьлівы,
Не кране нікога.
Невялічкая жывёла,
А карысьці многа?

Думала, думала Маня і раптам радасна закрычала:

— Трусікі, трусікі!

— Адкуль вы іх узялі?

— На тым тыдні мы езьдзілі ў саўгас і там іх купілі, а клетку зрабілі самі. А каб ты бачыла, якія прыгожыя трусікі. Зараз будзем карміць іх, дык убачыш.

Пабеглі дзеці на кухню і прынесьлі адтуль лупін ад бульбы.



Як толькі трусікі пачулі, што дзьверцы клеткі адчыняюцца, дык зараз-жа з доміка паказаліся дзьве мордачкі—шэрая і беленькая, на іх жвава заварушыліся вусікі.

Маня з захапленьнем сачыла за імі.

Скок, скок, хуценька падбеглі трусікі да глінянае кармушкі з лупінамі і за хвіліну яе ачысьцілі. Пад'еўшы, пачалі праз драцяную сетку паглядаць на дзяцей, а дзеці на іх.

— У беленькага чырвоныя вочкі,—сказала Маня.

Беленькі — гэта самка, у яе хутка будуць дзеткі, а шэры—самец.

— Дзеткі? Вось цікава, мы будзем іх даглядаць. Я кожны дзень буду карміць іх часта, часта.

— Не, ты яшчэ ня ведаеш, як трэба карміць трусоў. Часта нельга, а толькі тры разы на дзень і кожны раз даваць розныя кармы. Вось паглядзі, на сьцяне вісіць расклад, калі трэба карміць трусоў і колькі чаго даваць.

— А як называюцца нашы трусы?

— Шэры і Бяляначка.

Тут на гаворку дзяцей надышла цёця Валя:

— Дзеткі, перанясем клетку ў садок, паставім каля хлява, бо ў хаце ад іх дрэннае паветра, ды і ім там будзе лепей.

Перанесьлі дзеці клетку ў садок. Кожны дзень наведвалі трусікаў, акуратна кармілі, заўсёды ставілі чыстую вадзіцу, і трусікі расьлі на славу.

Для самкі ў клетцы зрабілі дзеці гняздо.

Аднаго разу Маню ў садзе сустрэлі дзеці радаснымі крыкамі:

— Хадзі, Маня, хутчэй, мы табе нешта пакажам, скоранька,—і пацягнулі дзяўчынку ў садок да клеткі,—

У Бяляначкі ёсьць дзеткі, ды як многа, але ўсе нейкія дзіўныя.

Паглядзела Маня і ўбачыла, як у гнязьдзе варушацца маленькія трусянияткі. Яны былі сапраўды нейкія дзіўныя,—голыя, з вялікімі галовамі, падобныя на галавасьцікаў, сьляпыя, з маленькімі хвосьцікамі.

— Цёця Валя, чаму яны сьляпыя, голыя? Яны-ж зьмерзнуць?

— Вочкі ў іх праз два тыдні адкрыюцца, вырасьце і шэрсьць, а на дварэ зараз цёпла і яны ня зьмерзнуць, а нанач мы будзем уносіць іх у хату.

— Як многа трусікаў! Раз, два, тры... аж дзесяць штук! Ну і малайчына наша Бяляначка—хвалілі дзеці.

А Бяляначка, здаволеная, паглядала на дзетак сваімі чырвонымі вочкамі і жвава варушыла вусікамі.



# ПРА ХЛОПЧЫКА БОБА і шкодныя мікробы

Верш І. КАГАНОЎСКАЙ. Малюнкі Н. МАЛЕВІЧА.

1.

Усюды любіць Боб
Валяцца,
Ды ня любіць
Умывацца.

Боб запэцкаўся увесь—
Кашу пальцамі
Ён есьць.

Кажуць дзеці:
— Зьеў наш Боб



З кашай не адзін
Мікроб.

І глядзіць на рукі Боб:
— Дзе-ж, па-вашаму,
Мікроб?

2.

Боб гуляць
Пайшоў на двор
І знайшоў там
Памідор.

Ён з зямлі яго
Ды—ў рот.
— Забаліць хлапцу
Жывот!

І сьмяюцца дзеці:
— У Боба
Поўна ў жываце
Мікробаў!

3.

Вось майструе
Боб завод

Што трымае—
Цягне ў рот.

Ён жалезны
Брудны лом
Чыста вымыў языком.
Кажуць дзеці:

— Ад мікробаў
Нажывеш, глядзі,
Хваробу.

Брудны хлопчык
Ледзь ня плача:
— Я мікробаў тых
Ня бачыў...

4.

Боб па дворыку
Бяжыць.
Ён змарыўся,
Хоча піць.

Бачыць—бруднае
Карыта,
Поўна ў ім
Вады наліта...

Боб спыніўся.
І напіўся.

Зноў гавораць
Дзеці Бобу:
— Выпіў ты
З вадой мікробы.



У ваду глядзіць
Наш Боб:
— Дзе-ж, па-вашаму,
Мікроб?

5.

Тут прынесла
З школы Ліна
Невялічкую
Машыну.

— Вось пакажа
Мікраскоп,
Што з гразёю
Зьеў наш Боб.

6.

Вечар.
Дзеці ўсе паснулі.
Зоркі ў вокны
Заглянулі.

Ды адзін наш
Боб ня сьпіць—
На ўсю хату
Ён крычыць.

Плача Боб,
Раскрыўшы рот:
— У мяне баліць
Жывот!

7.

Доктар з трубкаю
Бяжыць
Боба нашага
Лячыць.

Паглядзеў яму
У рот,
Потым выслухаў
Жывот.

Кажа доктар
Матцы Боба:
— Захварэў ён
Праз мікробы.

Вось—мікстура,
Парашкі,
Прынімаць
На дзень па тры.

Прамываць
Вось гэтым рот
І кампрэсы
На жывот.

Гразь усю з яго
Абмыць
І сырой вады
Ня піць.

8.

Хлопчык наш
Ня есьць, ня сьпіць
І ад болі ўсё крычыць:
— Ай, яй-яй!
Баліць жывот!

Буду ведаць,
Што мікробы
Заражаюць
Нас хваробай.






Апавяданьне амэрыканскага піанэра Н. РОЗЭНФЭЛЬДА

Малюнкі Л. ЗДАНОЎСКАЙ

Па вуліцы ідзе хлопчык. Галодны, змораны. Пальцы ног тарчаць з туфляў. Локці падраныя. Штаны — усе на латках. Яго завуць — „Джып“.

„Джып“ значыць злодзей. Хто навучыў яго красьці, курыць, лаяцца? — Беспрацоўе, голад, „боссы“ (боссы — так называюць у Амэрыцы капіталістаў).

„Боссы“ прагналі яго бацьку з фабрыкі. Маці ня можа дагледзець усіх дзя-

цей. Яна працуе: прыбірае, чысьціць, мые ў багатых дамох „боссаў“. А сын цэлы дзень на вуліцы і стаў „Джыпам“.

Яму дванаццаць год, але здаецца, што яму ня болей васьмі. Галадоўка, холад, курэньне прычына гэтаму.

Мы сустрэліся з „Джыпам“ у завулку вечарам, калі ўжо цямнела.

— Эй, „Джып“!—сказаў я.

Ён зірнуў на мяне і адказаў:

— Эй, чырвоны...

Не таму што ў мяне рыжыя валасы, а таму, што я піянэр. Я запытаўся:

— Куды пойдзем?

— Я галодны, хадзем шукаць яды,— сказаў ён.

Мы пайшлі. На рагу стаяў гандляр і прадаваў булкі, кілбасы.

— Пачакай мяне, — сказаў „Джып“ і падышоў да гандляра.

— Дайце булак і кілбасы.

— Гандляр даў яму. „Джып“ палез у кішэню, нібы за грашыма. Падышоў другі чалавек да гандляра. Пакуль гандляр з ім гаварыў, „Джып“ уцёк з булкамі.

— Чаму ты крадзеш, „Джып“?—запытаўся я.

Ён адказваў, уплятаючы булку:

— Дома няма чаго есьці, я павінен сам сабе даставаць... Я галодны.

Мне ўспомніліся словы нашага павадыра: „Прывядзеце ўсіх дзяцей, якіх зможаце, на чарговы збор“.



— Хадзем на збор „чырвоных“, — запрасіў я „Джыпа“.— Яны змагаюцца за тое, каб галодныя дзеці мелі што есьці. Што скажаш на гэта?

„Джып“ пашоў са мною.

На зборы было весела. „Джып гуляў з намі.



Ён слухаў, што гаварыў павадыр дзецям.

У другі раз ён прышоў сам.



Цяпер „Джып“ добры піанэр, ён ведае, што лепшы спосаб дастаць яду—змагацца за яе разам з другімі рабочымі і іх дзецьмі.

# З ЧАГО ЗРОБЛЕНЫ ВІДЭЛЬЦЫ?

Настаўнік Мікалай Ігнатавіч супакоіў дзяцей і спытаўся ў Петрыка, самага меншага вучня, што сядзеў на першай скамейцы:

— Скажы мне, Петрык, з чаго зроблены відэльцы?

Петрык зачырванеўся ад такога простага запытаньня і ўпэўнена адказаў:

— З жалеза.

Настаўнік сказаў Петрыку сесьці і спытаў у другіх вучняў:

— Ці правільна адказаў Петрык?

— Правільна!

— Правільна!—загаварылі ў клясе.

Мікалай Ігнатавіч спыніў гаворку дзяцей і сказаў:

— Няправільна вы адказалі.

— Чаму?—не ўцярпеў Петрык.

— От я зараз раскажу вам пра тое, з чаго робяцца жалезныя рэчы.

Усе вучні сядзелі спакойна, а настаўнік ім гаварыў:

— Усе рэчы, якія мы лічым жалезнымі,—відэльцы, цьвікі, падковы, качэргі—у сапраўднасьці зроблены не з жалеза. Лепей кажучы, не з аднаго жалеза, а з дамешкаю ў яго вугалю і іншых матэрый.

Чыстае жалеза, якое ня мае ніякіх дамешак, каштуе вельмі дорага. Каб з яго зрабіць звычайную качаргу, дык яна каштавала-б каля 25 рублёў.

Але гэтая качарга была-б ня толькі даражэйшая, але і горшая за тую, якая робіцца са звычайнага жалеза.



*Доменная печ, у якой плавіцца жалезная руда.*

Чыстае жалеза занадта мяккае. Каб з яго зрабіць цьвікі, дык іх нельга было-б забіць у сьцяну, а нажом можна было-б рэзаць толькі паперу. Качарга сагнулася-б адразу пры ўжываньні.

— Дык гэта не жалезныя цьвікі?

— Не,—адказаў настаўнік Петрыку.

Чыстае жалеза настолькі мяккае і так лёгка расьцягваецца, што з яго можна было-б рабіць „жалезную паперу“, лягчэйшую і танчэйшую за звычайную паперу.

У жалеза, з якога выраб-ляюць рэчы, дадаюць дамешкі. Але ня кожная дамешка робіць жалеза лепшым. Серка, напрыклад, псуе яго, робіць крохкім. Самы лепшы прыяцель жалеза— вугаль. Вугаль ёсьць амаль у кожным жалезе.

Як-жа ён туды трапляе?

А вось як.

Жалеза здабываюць з руды, якую знаходзяць у зямлі. Каб выплавіць жалеза з руды, трэба распаліць руду разам з вугалем у вялікіх печах. Печ гэта мае

выгляд самаварнай трубы. Зьверху закідваюць кавалкі руды і вугалю, а зьнізу надзьмухваюць паветра. Так робяць і гаспадыні, калі настаўляюць самавар, або распальваюць жалязка. У печ для выплаўкі жалеза дзьмуць, зразумела, ня ротам, а моцнаю паветранаю помпаю.

— Во, мусіць, вялікая там помпа?

— Вялікая. Яна наганяе шмат паветра ў печ. У гэтай печы вугаль распальваецца да бела, амаль увесь і згарае. А жалеза выплаўляецца з руды і сьцякае на дно печы.

Але частка вугалю распушчаецца ў расплаўленым жалезе, таксама як цукар у кіпні. Таму ў печы ўтвараецца ня чыстае жалеза, а моцны раствор вугалю ў жалезе—чыгун. З першага дня свайго жыцьця жалеза зьлітавана з вугалем.

Частку вугалю можна выпаліць, калі надзьмухваць у распраўлены чыгун паветра. Гэтак і здабываюць з чыгуна сталь і жалеза.

Вось бачыце відэльцы зроблены ня з чыстага жалеза.



# ЗРАБІ САМ
















## Трамвай
### З КАРОБАК
### АД ЗАПАЛАК

Вазьмі некалькі пустых каробак.

5 з іх склей адна з другой.

Наклей іх на аснову, якую зрабі так, як паказана на малюнку № 1.

З двух верхніх скрынак зрабі сьценкі—пярэднюю і заднюю (гл. малюнак № 2).

Потым з аднэй каробкі зрабі ніз з коламі (малюнак № 3).

З двух каробак зрабі верх трамвая (мал. № 4).

Цяпер усё гэта злажы як паказана на малюнку.

Прыклей нумар і трамвай гатоў. (Глядзі стар. 37)

# падумай

## ЗАГАДКІ

1. Што заўсёды ляціць, не аддыхаючы і ня маючы крыльляў?

2. Дзе можна бачыць рэчкі без вады, а гарады бяз людзей?

3. Якая жывёла такая дужая, што можа насіць сваю хату?

4. Колькі разоў трэба паўтарыць літару „Й", каб спыніць чалавека?

5. Ні зьвер і ні птушка, а нос як голка?

6. Нічога не баліць, а ўсё стогне?

## ХТО ПЕРАСКОЧЫЦЬ ПРАЗ КАРАНДАШ?

Дастаў Петрык з кішэні карандаш і сказаў сваім таварышом:—вось гэты карандаш я палажу на зямлю і з вас ніхто не пераскочыць праз яго.

Сьмяюцца хлопцы — ня вераць Петрыку. Тады Петрык палажыў карандаш на зямлю і кажа:

— Нагінайцеся, бярэцеся рукамі за пальцы сваіх ног і прабуйце пераскочыць, калі вы ня верыце.

Першым узяўся Міколка—паспрабаваў: сапраўды не пераскочыў. Сьмяюцца хлопцы. Самі ўзяліся пераскакаць—таксама нічога ня выходзіць. — А можа гэта толькі Петрыкаў такі карандаш?—сказаў Міколка.

Палажылі свае карандашы на зямлю—нагнуліся, узяліся рукамі за пальцы ног і... таксама ня могуць пераскочыць.

Паспрабуйце, дзеці, і вы гэта зрабіць. Ці можна ўсё-ж такі пераскочыць праз карандаш?

## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ З № 11

1. Мароз, 2. Гадзіньнік, 3. Самалёт.

Манаграма: кара, нара, гара.

Адказ на загадку „Хто гэта"? знойдзеш у апавяданьні „Шэры і Бяляначка" у гэтым нумары.

# ГУЛЬНІ

## эстафэта

Удзельнікі гульні становяцца парамі ў дзьве шарэнгі. Па камандзе кіраўніка гульні шарэнгі адыходзяць адна ад другой на 4—5 шагоў. Такім чынам, паміж шарэнгамі атрымліваецца ўнутраны праход.

Першыя з удзельнікаў кожнае шарэнгі атрымліваюць па сьцяжку.

Кіраўнік дае знак і тыя ўдзельнікі, што атрымалі сьцяжкі, абабягаюць свае шарэнгі. Вярнуўшыся на сваё месца, яны перадаюць сьцяжок наступнаму з свае шарэнгі. Другія, атрымаўшы сьцяг ад папярэдняга таварыша, таксама абабягаюць шарэнгі і перадаюць яго трэцім. Гульня працягваецца так да таго часу, пакуль ня дойдзе чарга да апошняга.

Апошнія ўдзельнікі бягуць са сьцяжкамі да кіраўніка. Выйграе тая партыя, з якой апошні ўдзельнік у шарэнзе першым аддасьць сьцяжок кіраўніку.

Правілы гульні: кіраўнік сочыць за парадкам у час гульні каб удзельнікі правільна абабягалі свае шарэнгі, каб сьцяжкі не перадавалі праз некалькі чалавек.

ЗЬМЕСТ:



Мастацкае афармленьне нумару мастака Ізмайлава. Вокладка мастака. Шахрай.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА
А. ЯКІМОВІЧ

10к

1230

ЦАНА № 25 КАП.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

на 2-тыднёвую ілюстраваную акцябрацкую часопісь

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

**„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ знаёмяць дзяцей у даступнай ім форме з нашым сацыялістычным будаўніцтвам і жыцьцём працоўных і іх дзяцей у буржуазных краінах. Часопісь арганізуе дзяцей на пасільны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.**

**„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ даюць у кожным нумары апавяданьні, нарысы, вершы, песьні, гульні, п'ескі, галаваломкі і іншыя матар'ялы. Часопісь друкуе для сваіх падпісчыкаў дармовыя дадаткі.**

**Усе дзеці павінны чытаць сваю часопісь**

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

Сьпяшайцеся падпісацца на часопісь да канца году!

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | | |
|---|---|---|
| На 3 месяцы | . . . | 90 кал. |
| „ 6 „ | . . . | 1 р. 80 „ |
| „ 1 год | . . . . | 3 р. 60 „ |

**Падпіску здавайце на пошту і лістаносцам**

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1568. 3060 экз. Уп. Галоўлітбелу А—5